


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

26 ліпеня 2002 года
№ 30 (379)
Выходзіць па пятніцах

ПАНАС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Свята не будзе

ВАЛОЖЫН. У сувязі з прыняццем надзвычайных мер пры правядзенні ўборачных работ перанеслі свята, прысвечанае 610-годдзю Івянца.

Меркавалася, што яно пройдзе 28 ліпеня. Свята перанеслі на некалькі тыдняў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Царкву ў Занарачы асвяцілі

МЯДЗЕЛ. У нядзелю Свята–Прэабражэнскую царкву, пабудаванную некалькі месяцаў таму ў Занарачы, асвяціў мітрапаліт Філарэт.

Храм будаваўся каля дзевяці год. Работы вёў мясцовы калгас «Шлях да камунізму». Дапамагала і нямецкая дабрачынная арганізацыя «Дамы замест Чарнобыля».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Канфіскавалі плёнку

АШМЯНЫ. З-за паведамлення несапраўдных звестак у суправаджальных дакументах на ўвозімы груз, супрацоўнікі паста "Каменны Лог" Ашмянскай мытні затрымалі 5-тонную партыю самаклейнай плёнкі.

Па папярэдніх падліках кошт грузу склаў 20 мільёнаў рублёў. Тавар перавозілі ў Маскву з Кітая літоўскія аўтаперавозчыкі.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Амерыканцы станцавалі "Лявоніху"

МАЛАДЗЕЧНА. Усе 140 дзяцей, якія адпачываюць у летніку "Зялёныя ўзгоркі" ў Баярах, атрымалі ў сераду падарункі ад амерыканцаў.

38 жыхароў Новага Света прыехалі ў летнік па запрашэнню міжнароднай дабрачыннай арганізацыі "Ад сэрца". Кожны беларускі падлетак атрымаў рукзак, бейсболку, цацку і пасылку з падарункамі. Амерыканцаў сустракалі хлебам-соллю. Госці нават "Лявоніху" станцавалі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Адлюстраванне імгненняў

ВІЛЕЙКА. Пад такой назвай у гісторыка-краязнаўчым музеі праходзіць выстава памяці мінскага фотамастака Сяргея Брушко.

38 работ прадставіла добраахвотная грамадская арганізацыя "Зялёны крыж", што займаецца праблемамі экалогіі. Сюды ўваходзяць сябры фотамастака, якія і наладзілі гэту выставу.

У ёй адлюстраваны імгненні жыцця пасля Чарнобыльскай трагедыі, знятыя Сяргеем Брушко падчас рабочых паездак у Чарнобыльскую зону.

**Ірына РАБУШКА.**

### Аляксандр Іваноў у Траццякоўцы

СМАРГОНЬ. Міжнародны фонд "Філантроп" арганізаваў акцыю, у якой паўдзельнічалі 1500 інвалідаў, якія займаюцца рознымі відамі мастацкай творчасці.

У ліку мастакоў з 20 краін свету ў мерапрыемстве паўдзельнічаў і смаргонец Аляксандр Іваноў. Дзесяць яго карцін падчас акцыі выстаўляліся ў Траццякоўскай галерэі. Мэрыя Масквы плануе стварыць музей фонду. Прасілі для экспазіцыі і палотны Аляксандра. Ён згадзіўся.

**Таццяна СКАРЫНКІНА.**



## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 27 ліпеня**

**Мінск**
14°С (уначы)
28°С (удзень)



**Вільня**
15°С (уначы)
27°С (удзень)



**Нядзеля, 28 ліпеня**

**Мінск**
16°С (уначы)
29°С (удзень)



**Вільня**
16°С (уначы)
27°С (удзень)



# «За чужыя спіны не хаваюся»

**СМАРГОНЬ. Наведваючыся па службовых справах у раённы выканаўчы камітэт, заўважыў адну асаблівасць: у прыёмнай старшыні ніколі не тоўпіліся людзі.**

Хаця і прыёмны дзень вызначаны, і сакратарка на месцы. Проста ў Станіслава Юргеля такі прынцып: калі чалавек прыйшоў на прыём да старшыні, значыць, на тое ёсць важкія прычыны. Па крайняй меры, у разуменні самога наведвальніка.

— Стараюся не забываць прапісную ісціну – усе мы выйшлі з народа, — казаў кіраўнік раёна, калі давялося ў чарговы раз з ім сустрэцца. – Як і выказванне Кастуся Каліноўскага, што не народ існуе для ўлады, а наадварот...

**— Станіслаў Вацлававіч, што ў гэтыя дні найбольш турбуе старшыню райвыканкома?**

— Калі сказаць, што толькі жніво, – то, значыць, сказаць далёка не ўсё. Уборка ўраджаю – гэта, можа быць, вышэйшы пік напружання. На хлеб працавалі цэлы год, ён жа дазволіць вяскоўцам на працягу наступнага года падтрымліваць эканоміку гаспадарак, свой уласны бюджэт. Але жніво пройдзе, застануцца іншыя праблемы?

**— Якія?**

— Найперш, заработная плата – і для бюджэтнікаў, і для работнікаў сельскай гаспадаркі. Падрыхтоўка горада да ацяпляльнага сезона, у тым ліку будаўніцтва новай кацельні ў мікраераёне нумар 34, яго яшчэ называюць мікрараён трактарнага завода. Здача ў эксплуатацыю ў лістападзе паліклінікі ў тым жа мікрараёне. А яшчэ ўвядзенне ў строй дзеючых першай чаргі сёмай гарадской школы, школы-сада ў вёсцы Жодзішкі.

**— У вырашэнні гэтых ды іншых пытанняў на чыю падтрымку спадзяецеся, на каго абапіраецеся?**



Фота Аляксандра ЛАЗОЎСКАГА.

**Старшыня Смаргонскага райвыканкома Станіслаў Юргель: што можа быць смачней, чым вада з калодзежа ў спякотны дзень.**

— Пытанне, здаецца, лёгкае, а вось адказаць на яго няпроста. Абапіраюся найперш на кіраўнікоў, якія маюць рэальныя магчымасці дапамагчы.

Але ў любым выпадку ўвесь цяжар адказнасці кладзецца на мяне, і я не здымаю з сябе гэтай адказнасці – далей ужо хавацца няма за каго. Зрэшты, ведаў куды ішоў, у які "воз" запрагаўся.

**— Заўважыў, што вы вельмі ахвотна, з задавальненнем сустракаецеся з людзьмі, не ўхіляецеся ад нязручных, скажам так, пытанняў. А як ставіцеся да журналістаў?**

— Нармальна стаўлюся. Як, зрэшты, і да крытыкі. Толькі аб адным прашу: калі ўжо крытыкуеце, калі нейкія недахопы ўскрываеце, то і падказвайце, як ад іх пазбавіцца. Не ведаеце самі – з іншымі параіцеся, у людзей дасведчаных, вопытных спытайце. Такая крытыка будзе і карысней, і зразумелай. А быць свяцей папы – не атрымаецца.

**Аляксандр ВІТАЛЬЕЎ.**

■ **МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ БУДОЎЛІ**

# Дом культуры ўзводзяць ад раніцы да змяркання

**МАЛАДЗЕЧНА. Да адкрыцця Дома культуры засталося дзесяць з невялікім тыдняў. Калі будаўнікі выканаюць усе работы да прызначанага тэрміну – 1 кастрычніка.**

Дом культуры будуюць каля 600 чалавек. Працуюць з 8 гадзін раніцы і пакуль не сцямнее. Зараз вядуцца аддзелачныя работы, уцяпленне, добраўпарадкаванне тэрыторыі, пракладка камунікацый.

Начальнік участка ААТ "Будаўнік-169" **Іван Русак** гаворыць, што бываюць перабоі з будматэрыяламі. Дарэчы, іх вязуць сюды з усёй Беларусі.

Якія складанасці ў будаўнікоў?

— Спякота. Будаўнікі змяняюць адзін аднаго: то ў памяшканні працуюць, то на вуліцы.

Яшчэ праблема харчавання. Аўтобусам возім рабочых у кругласутачную сталовую, некаторыя ходзяць паесці ў гандлёва-эканамічны каледж.

На пытанне, ці закончыце ў тэрмін будаўніцтва, Іван Русак адказаў: пастараемся. Грубых памылак пры будоўлі не павінна быць. Кожны дзень на будоўлю прыязджаюць прадстаўнікі гарадскога і абласнога будкантролю.

–Невялікія недаробкі – іншая справа. Але ахвяр з-за іх не будзе.

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Аляксандра ЛАЗОЎСКАГА.

**Маладзечна, 22 ліпеня. Так выглядае Дом Культуры з вышыні птушынага палёту.**

■ БІБЛІЯТЭКА

# Беднасцю па індэксу чалавечага развіцця

**І быў час, і быў выраз: "народ, які найбольш чытае". І выраз гэты з'яўляўся адным са сведчанняў грандыёзных дасягненняў Краіны Саветаў у культурным развіцці яе грамадзян.**

Аспрэчваць падобнае сцвярджэнне няма сэнсу: друкаванае слова на старонках кніг, газет альбо часопісаў сапраўды было ў пашане. Спашлюся на ўласны досвед. Адным часам паштальён апускаў у маю скрыню да дзесятка самых розных выданняў. Пазней, калі Беларусь пайшла сваім шляхам, калі цэны літаральна на ўсё папаўзлі ўверх, а зарплата чамусьці пасаромелася гэта зрабіць, давялося абмяжоўваць апетыт. Балазе, недахоп друкаванай інфармацыі можна было кампенсаваць у чытальнай зале бібліятэкі. Туды і зачасціў. Як чалавек цікаўны. І як патрыёт: імкнуўся на належным узроўні падтрымліваць "індэкс чалавечага развіцця", якім так ганарыцца ўлада і па якім Беларусь сярод іншых краін займае недзе пяцідзесятае месца.

Але ў хуткім часе мы можам пазбавіцца і ганаровага звання, і індэкса любімага. Як паведаміла загачыца аддзела камплектавання і апрацоўкі літаратуры маладзечанскай гарадской цэнтральнай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча **Наталля Мартыненка**, у другім паўгоддзі 2002 года падпіска на перыядычныя выданні зменшылася амаль на 70%. Калі на першае паўгоддзе для гэтых мэт з гарадскога бюджэту было выдаткавана 8,5 млн.руб., то на другое – 3,5 млн.руб. У такіх умовах давялося адмовіцца ад некаторых газет і часопісаў. Так, расійскіх газет засталося чатыры, беларускіх – адзінаццаць. Прыярытэт аддаваўся найбольш танным і масавым. З ліпеня перасталі прыходзіць у бібліятэку "Народная газета", "Народная воля", "Свободные новости", "Семья", "Семейный очаг", "Настаўніцкая газета", "Вячэрні Мінск" і рэкламныя дадаткі да яго... Супрацоўнікі бібліятэкі перажываюць, што надалей будзе яшчэ больш складана. Да таго ж зімой "ачаг культуры" можа застацца без ацяплення: доўг мінулай зімы складае амаль 25 млн. руб.

У такім разе нічога іншага не застаецца, як чакаць: ці доўга мы яшчэ будзем насіць ганаровае званне "народа, які чытае больш за ўсіх" і як нізка апусціцца згаданы ўжо індэкс?

**Іван МЁДАЎ.**



Фота IREX/ProMedia

## Падпіска ў райбібліятэках

| | 1-е паўгоддзе 2002 года, экз. | | | 2-е паўгоддзе 2002 года, экз. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Газеты | Часопісы | Усяго | Газеты | Часопісы | Усяго |
| Астравецкі р-н | 32 | 58 | 90 | 12 | 53 | 65 |
| Ашмянскі р-н | 24 | 37 | 61 | 22 | 37 | 59 |
| Валожынскі р-н | 38 | 60 | 98 | 38 | 60 | 98 |
| Смаргонскі р-н | 22 | 49 | 71 | 22 | 48 | 70 |
| Мядзельскі р-н | 17 | 63 | 80 | 17 | 63 | 80 |
| Маладзечанскі р-н | 52 | 102 | 154 | 18 | 52 | 70 |
| Вілейскі р-н | 47 | 102 | 149 | 28 | 84 | 112 |

## Нас абагнала Куба

**Па апошніх звестках з ААН у спісе краін па ўзроўню чалавечага развіцця Беларусь перамясцілася з 53-й пазіцыі на 56-ю. Нас абагнала Куба.**

■ ЛЕТА

## Рамантычная прыгажуня

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёмы раз у гарадскім аздараўленчым летніку "Рамантык" пры цэнтры пазашкольнай работы правялі конкурс прыгажосці.**

У журы ўвайшлі начальнік летніка **Наталля Шульжыцкая**, удзельніца гарадскога конкурсу міс-Вясна-2002 (міс Арыгінальнасць) **Юлія Палубінская** і медыцынская сястра летніка **Таццяна Пісар**. Яе дапамога спатрэбілася ўжо ў трэцім конкурсе. Ад прыгажосці канкурсанткі **Валянціны Войніч** адзін з хлопцаў страціў прытомнасць. Амаль па-сапраўднаму.

Дзесяць дзяўчынак узростам ад 7 да 15 гадоў спаборнічалі за тытул "Міс летніка".

Першы конкурс "Візітка". Дзяўчынкі расказвалі пра сябе. Рабілі ўсё, каб зачараваць журы і гледачоў. **Настасся Петух** нават свой дамашні адрас усім са сцэны назвала. У другім конкурсе "Вобраз маёй мары, ці Подыум" канкурсанткі паказвалі свае ўбранні, прычоскі. Дарэчы, прычоскі дзяўчатам зрабілі навучэнкі курсавога вучэбнага прадпрыемства "Надзея". Трэці конкурс – "Рэклама". Яскравым танцам адкрыла яго маладзечанская міс Каса-2002 **Кацярына Занкевіч**. Усіх замілавала прыемным голасам у музычным конкурсе **Яўгенія Кручкова**. Апошні конкурс – "Танец маёй душы" – расставіў усе кропкі над "і".

Міс «Рамантыка» стала 12-гадовая **Яўгенія Кручкова**. Яна атрымала ў падарунак мяккую цацку. Журы адзначыла кожную з удзельніц тытулам і падарункамі.

**Ірына РАБУШКА.**

## Летнік ля Гальшанскага замка

**АШМЯНЫ. 16 маладых людзей з Ашмянскага і Іўеўскага раёнаў адкрылі летнік ля Гальшанскага замка.**

З 17 па 22 ліпеня моладзь адпачывала і працавала на развалінах замка. Маладыя людзі добраўпарадкавалі тэрыторыю вакол замка і ў самім замку.

Ініцыятыва стварэння летніка належыць незарэгістраванаму інфармацыйна-тэхнічнаму цэнтру "Рэгіён". Наступны выезд да замка запланаваны на жнівень.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## На Мядзельшчыну ў адпачынак

**МЯДЗЕЛ. Дваццаць дзевяць дзяцей з Калінкавіч прыбылі на Мядзельшчыну на адпачынак.**

Будуць адпачываць яны ў сем'ях з розных куткоў раёна. Гэта працяг акцыі «Падорым сонейка дзятве», якая распачалася летась. Адпачынак прадоўжыцца да 6 жніўня.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ НАШ РЭГІЁН

# Сваткі

**МЯДЗЕЛ. Гэтая вёска знаходзіцца за некалькі метраў ад гасцінца Мядзел–Княгінін.**

Наконт паходжання назвы існуе некалькі версій. Першая даводзіць назву ад слова «сваткі», бо ў мінулым тут была царква, і людзі прыходзілі адпачыць духоўна і фізічна. Другая версія падобная на паданне.

Калісьці жыла тут гожая дзяўчына. Часта прыходзілі да яе сватацца. Адзін раз сабралася ў яе ажно пяць сватоў. Ды не ведала яна, каго з жаніхоў выбраць, і тады выгукнула: «Сваткі, мае сваточкі, што ж мне рабіць, за каго замуж выйсці?». Адсюль і назва – Сваткі.

У 1868 годзе гэта была вёска Княгінінскай воласці Вілейскага павета са 108 жыхарамі. З 1899 года пачала працаваць школа граматы. Пры Польшчы тут месціўся паліцэйскі пастарунак, былі дзве крамы, царква, пачатковая школа. З 1940 года і дагэтуль вёска – цэнтр сельсавета.

Некалькі вядомых людзей нарадзіліся ці жылі ў Сватках або непадалёк. Вядома, шануюць тут **Максіма Танка**, які нарадзіўся за сем кіламетраў адсюль у вёсцы Пількаўшчына. У Сватках будучы паэт вучыўся ў пачатковай школе. Ёсць у школьным краязнаўчым музеі прысвечаная яму зала з цікавымі экспанатамі. Добрую памяць пра сябе пакінуў настаўнік беларускай мовы і літаратуры **Мікола Пашкевіч**. Пражыў ён толькі 37 гадоў. За няпоўныя сем год настаўнічання ён выдаў адну з першых у рэспубліцы прац пра работу гуртка беларускай літаратуры. А колькі вядомых паэтаў і пісьменнікаў перабывала ў вясковай школе, дзякуючы яму: Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч...




**Гэтую хату выкупіў дачнік з Мінска і аздобіў па–свойму.**



**У Сватках на будынку непрацуючага лазнева-пральнага камбіната ёсць некалькі графіці.**

Памяці Міколы Пашкевіча прысвяціў Васіль Быкаў сваю аповесць «Абеліск».

А яшчэ адзін настаўнік, былы дырэктар школы **Барыс Пястун** захапляўся жывапісам і пакінуў пасля сябе багата краявідаў сваткаўскіх ваколіц.

Цяпер у вёсцы жыве звыш пяці соцень чалавек. Шмат хто працуе ў сельскагаспадарчым вытворчым кааператыве «Сваткі», цэнтр якога і знаходзіцца ў вёсцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Гэта рэшткі каменнай брамы царквы. Сама яна была драўляная, і, гавораць, у вайну яе спалілі партызаны. Але людзі збераглі штосьці з абразоў і начыння, перанеслі ў пуню і некалькі год маліліся там, пакуль улады не забаранілі.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Падарунак ад універсітэта

**ВАЛОЖЫН. Мінскі лінгвістычны універсітэт перадаў навучальным установам раёна ў парадку шэфскай дапамогі мэблю, дыванoвыя пакрыцці, відэамагнітафоны, тэлевізары.**

А таксама лінгафонны кабінет, які аддалі гімназіі. Сума падарунка – каля 3 мільёнаў рублёў. Яго размеркавалі паміж сярэднімі школамі, дзіцячымі дашкольнымі ўстановамі і дзіцячым рэабілітацыйным цэнтрам.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Дапамога ад японцаў

**ВАЛОЖЫН. Грамадскі фонд з японскага горада Фукабасі "Збор для дзяцей Чарнобыля" ўзяў пад апеку службы дзяцінства і дапамогі пры родах раённай бальніцы.**

На мінулым тыдні японцы перадалі 22,5 тысячы долараў. Яны не першы раз прывозілі грошы, але гэтая сума – найвялікшая.

На іх валожынцы закупілі інструменты, апаратуру, лекі для вывядзення дзяцей з надзвычай цяжкага стану. Усё закуплена для радзільнага, дзіцячага і рэанімацыйнага аддзяленняў райбальніцы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ СУСТРЭЧЫ

## Палякі ў Беразінскім

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 дзён група дзяцей з Польшчы адпачывала ў Беразінскім па запрашэнні Гарадзілаўскага сельскага Савета.**

Дзеці жылі у сем'ях. За час знаходжання ў Беларусі палякі пазнаёміліся з гістарычнымі помнікамі нашай краіны, для іх наладзілі культурна-забаўляльную праграму.

У аўторак замежныя госці адправіліся дадому, дзесяць беразінскіх дзецей паехала з імі. Кіраўнік замежнай групы пані Альжбета сказала, што ўсе засталіся задаволеныя адпачынкам.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ГІСТОРЫІ ПРА МОВУ

## «Сняданкі»

**Аднойчы турыстычная група была ў адной краіне Усходняй Еўропы.**

Час ад'язджаць, а ўсе галодныя. Так і паехалі б, небаракі, каб не чалавек, які ведаў беларускую мову. Справа ў тым, што праз дарогу ад галодных турыстаў месцілася установа, на шыльдзе якой вялікімі літарамі было напісана: "Сняданкі". Слова, відома ўсім, хто разумее...

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ ХАРЧАВАННЕ

# Усё прыходзіць і мінае, а есці хочацца заўжды

**МАЛАДЗЕЧНА. Як паесці ў час абедзеннага перапынку ў Маладзечне?**

Дактары рэкамендуюць харчавацца гарачымі стравамі, а не астылымі "ссабойкамі". Паўнацэнны абед складаецца з халоднай закускі (звычайна гэта салата), першай стравы, гарніра (каша ці бульба) з чым-небудзь мясным ці рыбным, запіваецца ўсё гэта кампотам ці гарбатай плюс-мінус бутэрброд ці булачка. Такі набор можна атрымаць у сталовай, кафэ ці рэстаране.

Паводле дадзеных "Маладзечнаграмхарчу" на 1 студзеня 1991 года ў горадзе працавалі 92 прадпрыемствы грамадскага харчавання, з іх 31 — пры прадпрыемствах, 8 — пры будаўнічых арганізацыях, 15 — пры сярэдніх школах і ПТВ, 11 — пры інтэрнатах, 12 — агульнадаступных, а яшчэ пры транспартных прадпрыемствах, пры вакзалах.

Як пяюць "Песняры": "Няма таго, што раньш было". Наказалі доўга жыць "Белы капрыз", "Стары замак", дыетычная сталовая. У памяшканнях былога рэстарана "Папараць-кветка" цяпер працуе камп'ютэрны клуб.

Між іншым рэстаран адрозніваецца ад кафэ большым асартыментам прадукцыі, у сталовых няма афіцыянтаў, інтэр'ер больш просты, чым у кафэ, і не прадаюцца алкагольныя напоі.

Самы неназойлівы сервіс ва ўстановах кшталту закусачная "Спатканне" (што на вуліцы Чкалава), ды і меню складаецца толькі з бутэрбродаў і розных напояў. А які водар стаіць у зале! Зрэшты, пастаянныя наведвальнікі такіх установаў да ўсяго прывычныя, і не есці яны сюды ходзяць.



Фота IREX/ProMedia

Вайна - вайной, а абед па распарадку.

## Кафэ

Стравы і іх кошт у гэтых установах розныя. У кафэ "Лібава", што каля вакзала, з 11.30 да 16.00 наведвальнікам прапануюць на выбар два комплексныя абеды (напрыклад, салата, боршч халодны, гуляш, бульба вараная, капуста тушаная, кампот і хлеб) коштам 1912-1945 рублёў. Усё гэта вы будзеце спажываць пад лёгкую музыку за сталом з прыгожым сінім абрусам. Каму не трэба пасля абеду ісці на працу, можа заказаць замест кампоту піва (ад 600 да 1500 руб. за 0,5 л), віно (ад 600 да 1000 руб. за 50 г) ці каньяк (2-3 тысячы за 50 г).

На абед можна зайсці і ў піцэрыю "Пінгвін" (адна па вул.Прытыцкага, другая – каля міні-рынку). Калі заказаць суп з канцэнтратаў "Быстрасуп" (а мы ж імкнемся да здаровага харчавання), піцу з вяндлінай, гарбату з цукрам і піражок, то набяжыць 2440 рублёў. Калі ўлічыць, што многія мужчыны адмаўляюцца ад супа на карысць мяса, то есці ўвогуле няма чаго, бо з піцы наедку ніякага.

## Рэстараны

Гадоў 20 таму некаторыя служачыя маглі дазволіць сабе абедаць у рэстаране. Там і сёння з 12.00 да 15.00 гатовы накарміць абедам усіх жадаючых. Комплексны абед (зноў боршч халодны, ялавічына адварная, бульба, салата з капусты, хлеб і чарнічны кісель) каштуе 2463 руб.

Дыетычны абед (замест ялавічыны – язык свіны, а бульба падаецца з кавалачкам памідора) даражэйшы – 2638 руб. Яшчэ там можна заказаць малако, кефір, смятану, каньяк (1205-1880 руб.), піва (801-1785 руб.), віно (450-610 руб.). Акрамя таго, вы можаце пакаштаваць такія стравы, як "мяса па-гавайску" ці "медальён свіны". Праўда, заплаціць за гэта прыйдзецца 2995 руб. і 3655 руб. адпаведна. Але сёння ў рэстаран людзі ідуць, каб атрымаць асалоду ад смачнай ежы, вырашыць камерцыйныя справы, паслухаць музыку, сябе паказаць і на іншых паглядзець, таму грошай не шкадуюць. А часу, адведзенага для абедзеннага перапынку, вам можа не хапіць: кожная страва рыхтуецца для кліента індывідуальна, таму працэс ужывання ежы часам зацягваецца.

## Сталовыя

Для аматараў хутка паесці ў любы час дня і ночы працуе кругласутачная сталовая па вуліцы Лібава-Роменскай. Размешчана яна далекавата ад цэнтра горада, але цэны там прыемна адрозніваюцца ад рэстаранных.

Тыя самыя боршч з салатай (5 відаў у асартыменце), смажаная рыба ці кураня, бульба ці грэцкая каша, гарбата з булачкай каштуюць каля 1740 руб. Наведаць сталовую па кішэні амаль кожнаму. Нават калі кожны дзень там абедаць, заплаціць прыйдзецца 52-53 тысячы рублёў за месяц. Акрамя таго, у адрозненне ад рэстарана і кафэ ў сталовай не паляць цыгарэты і ежу можна атрымаць адразу. Але не будзе ні прыгожых абрусаў, ні афіцыянтаў, ні лёгкай музыкі.

Так што выбірайце ўстанову на свой густ і кашалёк. І смачна вам есці.

**Святлана ЦІШКО.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 18 ліпеня | 25 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1816,00 руб. | **1822,00** руб. |
| Еўра | 1834,61 руб. | **1800,14** руб. |
| Злоты | 432,56 руб. | **442,93** руб. |
| Літ | 522,23 руб. | **521,69** руб. |
| Расійскі рубель | 57,44 руб. | **57,83** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1830-1850 руб. | **1860** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) | |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 1900-11900 | **11900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 3000-4700 | **4500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2300 | **2300** |
| **Рыс**, 1 кг | 700-920 | **700** |
| **Грэчка**, 1 кг | 550-600 | **510** |
| **Цукар**, 1 кг | 775 | **775** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 880 | **880** |
| **Алей**, 1 л | 1400-2050 | **1950** |
| **Маянэз**, 200 г | 380 | **380** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 600 | **600** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 900-1100 | **700** |
| **Капуста**, 1 кг | 400-450 | **500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1850-1900 | **1900** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1500 | **1550** |
| **Агуркі**, 1 кг | 300-380 | **300** |
| **Памідоры**, 1 кг | 1200-1300 | **1000** |
| **Кавуны**, 1 кг | 650-850 | **450** |
| **Морква**, 1 кг | 650-850 | **1000** |
| **Дыня**, 1 кг | | **1900** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Малако**, 1 л | | **600** |
| **Смятана**, 1 л | 1800 | **1800** |
| **Масла**, 1 кг | 4000 | **3800** |
| **Тварог**, 1 кг | 1200-1800 | **1400** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1300 | **1500** |
| **Бульба маладая**, 1 вядро | 4000-4200 | **4000** |
| **Чарніцы**, 5-літровае вядро | 4500 | **5000** |
| **Чорныя парэчкі**, 5-літр. вядро | 4500-5000 | **4000** |
| **Чырвоныя парэчкі**, 5-літр. вядро | 1500 | **3500** |
| **Маліны**, 5-літр. вядро | 6500-7000 | **8000** |



■ НАШЫ ГРОШЫ

# Што купляць: долар ці еўра?

**Даволі-такі складана даць адназначны адказ.**

Долар – ён і ў Афрыцы долар, з ім не прападзеш. Калі ж камусьці трэба ехаць у Еўропу, то, вядома, лепш браць еўра – не згубіце пры канверсацыі за "кардонам". Тым больш, што ён цяпер на пад'ёме, курс расце ўжо другі месяц. Ды і на бліжэйшую перспектыву ўсе аналітыкі прадказваюць рост еўра ў адносінах да долара.

А ў цэлым радуе, што грамадзяне нашы трымаюць вуха востра. І нават тыя, у каго няма прычын для падобных хваляванняў, бо няма ні долараў, ні еўра, — усё роўна цікавяцца праблемай. Гэта азначае, што як бы ні ўпіралася кіраўніцтва нашай краіны, глабалізацыя сусветнай эканомікі дакацілася і да нас і далучыла амаль кожнага да галоўнага сімвала заходняга свету – іх грошай. І не важна ўжо да якіх – долараў ці іншых банкнотаў.

Цяпер пра галоўнае. Еўра сапраўды мацнее не па днях, а па гадзінах. Пачаўшы сваё існаванне з адзнакі курсу на ўзроўні 1,17 долара за еўра 1.01.1999 года, ён за тры гады згубіў амаль адну пятую сваёй вагі, апусціўся да ўзроўню 0,88 долара за еўра. І вось цяпер ён зноў дагнаў і перагнаў "зялёнага" канкурэнта.

Асноўнай прычынай такога падзення долара з'яўляецца крызіс амерыканскай эканомікі, спад на фондавых рынках у ЗША, хваля карпаратыўных скандалаў з абвінавачваннем некаторых высокапастаўленых асоб у махлярстве, зніжэнне інвестыцыйнага прытоку капіталаў у Амерыку, вялізны гандлёвы дэфіцыт амерыканскай эканомікі. Пад'ём курсу еўра прыктычна не звязаны з поспехамі эканомікі еўрапейскіх краін, а расце з-за слабасці долара і адыходу глабальных інвестараў з амерыканскага рынку.

Перспектывы гэтага працэсу надта вызначаны – долар будзе яшчэ падаць некаторы час. Потым пачнецца зваротны працэс – будзе зніжацца еўрапейская валюта. Баланс установіцца каля адзнакі 1 да 1 з невялікім адхіленнем як у адзін, так і ў другі бок.

У цэлым, амерыканская эканоміка (яе аб'ём складае каля 10 трыльёнаў долараў) намнога мацнейшая за еўрапейскую. Проста цяпер амерыканцам выгадны нязначны спад курсу нацыянальнай валюты – іх тавары становяцца дзешавей за мяжой, што прыводзіць да росту экспарту.

Гэтым і тлумачыцца бяздзеянне амерыканскіх чыноўнікаў у цяперашняй сітуацыі – прэзідэнт Буш усіх заспакойвае, стаўка застаецца нязменнай, колькасць банкруцтваў і фінансавых скандалаў расце.

Але хваляваць гэта можа толькі спекулянтаў, бо ім ёсць чаго баяцца, яны ж хочуць зарабіць на пад'ёме еўра.

У свой час суперспекулянт фінансавы магнат Сорас ужо згубіў некалькі мільярдаў долараў, прадказаўшы падзенне долара. Не трэба браць прыклад з яго.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

СЛУЖБА "01"

# Наступіў пажаранебяспечны перыяд

**МАЛАДЗЕЧНА. З пачатку года на тэрыторыі Маладзечанскага лясгаса адбыліся тры пажары, якімі пашкоджана 0,17 га лесу.**

Асноўныя прычыны пажараў — гэта неасцярожнае абыходжанне з агнём, бескантрольнае спальванне пасечаных рэштказў, незатушаныя кастры, дзіцячае свавольства з агнём.З наступленнем пажаранебяспечнага перыяду забараняецца заезд тэхнікі на тарфянікі. Улічваючы павышаную небяспечнасць асобных участкаў лясоў, забараняецца іх наведванне і заезд на тэрыторыю транспарту.

Працуючы на лесанарыхтоўках, не забруджвайце лес адходамі, на дапускайце спальвання пасечаных рэшткаў. Выкарыстоўваемая тэхніка павінная мець спраўную сістэму запальвання, паліва-падачы, надзейныя іскрагасільнікі.

**Андрэй РАБЕЦ.**

■ ФУТБОЛ

# Усё як на чэмпіянаце свету

**МАЛАДЗЕЧНА. З 8 па 19 ліпеня прайшоў гарадскі міні-футбольны турнір сярод дваровых каманд.**

Гулялі на спартыўнай пляцоўцы гарадскога парку. Арганізатары – кааліцыя незарэгістраваных маладзёжных аб'яднанняў і фан-клуб футбольнага клуба "Маладзечна-2000".

Удзельнічала 16 каманд, якія былі разбітыя на 4 групы. Па дзве лепшыя выходзілі ў чвэрцьфінал. А пасля па гульнях на выбыванне разыгралі чэмпіёнскі тытул.

Заключныя гульні праходзілі ў мінулую пятніцу. Спачатку ў матчы за 3 месца "Дзіна" перамагла каманду "Хуліганс", а пасля наступіла галоўная і самая напружаная гульня гэтага турніру.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Пераможца гарадскога турніру сярод дваровых каманд па міні-футболу каманда «Скарына». Гульцы (злева-направа): Аляксандр Радзько, Аляксандр Барташ, Дзмітрый Равянок, Юрый Талькоўскі, Сяргей Бандаронак, Аляксандр Арлянковіч.**

## Фінал

**19 чэрвеня. "Скарына" – "Граўзам крафт" 4:2 (асноўны час 1:1).**

**Галы:** Барташ – 2, Радзько – 2; Д. Вараўка –2.

**"Скарына"**: Равянок, Бандаронак (кап.), Арлянковіч, Талькоўскі, Радзько, Барташ.

**"Граўзам крафт"**: Чурылін, А. Вараўка, Бражаловіч, Сяргей, Гурыновіч (кап.), Д. Вараўка.

Папярэджанне: Барташ; выдаленне: Арлянковіч.

Лепшыя, на версіі «РГ»: Барташ; Чурылін.

Большасць гледачоў, якіх сабралася з паўсотні, хварэла за "Граўзам крафт". Нягледзячы на тое, што назва іх каманды ў перакладзе з нямецкай мовы гучыць як "Жорсткая сіла", на полі выйшлі невялічкія хлапчукі. А ў складзе "Скарыны" – адныя грэналзёры. Прытым што сярэдні ўзрост скарынцаў на 2,5 года большы за саперніка ў. Таму гледачы і гульцы "Скарыны", як яны потым прызналіся, разлічвалі на лёгкую перамогу.

Распачалася гульня атакамі скарынцаў. Але сілачы, ў цэнтры абароны якіх саліраваў дзевяцікласнік СШ №6 **Андрэй Бражаловіч**, касцямі лажыліся пад мяч. Не дазваляючы тым самым скарынцам наносіць прыцэльныя ўдары з блізкай адлегласці. А толькі ў першым тайме скарынцы нанеслі з тры дзесяткі ўдараў. Большасць з іх ішла ад самага дасведчанага гульца нападаючага **Аляксандра Барташа**. Тыя ўдары, што траплялі ў вароты, па-майстэрску адбіваў навучэнец палітэхнікума **Сяргей Чурылін**. Аднойчы "Граўзам крафт" выручыла перакладзіна іх варот. Гульня глядзелася. Але першы тайм скончыўся і адчувалася, што ў абаронцаў "Граўзам крафта" сілы яшчэ ёсць.

Другі тайм праходзіў па тым жа сцэнарыі. У пачатку тайма Барташ ударыў у штангу, астатнія атакі ліквідавалі Чурылін, Бражаловіч і кампанія. Да заканчэння асноўнага часу заставалася з дзесятак хвілін, і тут суддзі памыліліся. Барташ ударыў па варотах, і мяч ад перакладзіны адскочыў на добрыя 40 сантыметраў за лінію варот. Але гол не залічылі.

Праз тры хвіліны "Граўзам крафт" арганізаваў контраатаку. Гэта была іх другая спроба за ўвесь матч узяць вароты "Скарыны". І хоць не з першай спробы, але **Дзмітрый Вараўка** загнаў-такі мяч у вароты. Перамога? Як гэта здараецца і з больш дасведчанымі камандамі, гульцы "Граўзам крафта" на імгненне згубілі канцэнтрацыю. І праз дваццаць секунд Барташ галавой з метра адправіў мяч паміж ног Чурыліну.

## Дадатковы час

Другі тайм не прайшоў проста так для абароны "Граўзам крафта", якая прыкметна стамілася. Таму "дадавіць" саперніка ў для больш дасведчаных скарынцаў стала справай тэхнікі. У самым пачатку студэнт юрфака БДУ **Аляксандр Радзько** выводзіць сваю каманду наперад. Іх сапернікі кінуліся адыгрывацца і атрымалі ў свае вароты яшчэ два мячы. Але другі гол за хвіліну да канца забілі.

Фінальны матч прайшоў у лепшых традыцыях мінулага чэмпіянату свету. Былі судзейскія памылкі, прыгожыя галы, папярэджанні і выдаленні. Барташ аднойчы адчуў сябе варатаром і узяў мяч у рукі, за што атрымаў жоўтую картку, а Арлянковіч у самым канцы гульні груба згуляў супраць саперніка, за што і ўбачыў чырвоную картку.

## Лепшыя

Каманды-прызёры атрымалі па камплекце медалёў і футбольным мячы. Лепшы бамбардзір турніру (10 галоў) **Андрэй Гурыновіч** ("Граўзам крафт") і лепшы варатар **Дзмітрый Равянок** ("Скарына") атрымалі па футбольным часопісе. Гульцоў "Граўзам крафта" ўзнагародзілі кнігамі Уладзіміра Арлова "Дзесяць стагоддзяў беларускай гісторыі", а скарынцы паедуць на рэспубліканскі міні-футбольны турнір "Кубак незалежнасці", які адбудзецца 27 ліпеня ў Барысаве.

Арганізатары турніру дзякуюць маладзечанскім прадпрымальнікам за грашовую дапамогу ў набыцці прызоў.

Дарэчы, арганізацыя прайшла на добрым узроўні. Скаргаў ад каманд па гэтым пытанні не паступала. Прэтэнзіі былі толькі па якасці поля - стаяла пыліішча, і ў межах поля знаходзіўся каналізацыйны люк, які мог траўміраваць футбалістаў. А ў астатнім «зуброўцы» далі добры прыклад гарадскому аддзелу па фізічнай культуры і спорту, які і павінен наладжваць падобныя турніры: прызы, суддзі, сярод якіх быў і лепшы маладзечанскі суддзя **Віктар Дзмітрачкоў**, урачы. Нажаль, невядома толькі, ці возьмуцца «зубры» за арганізацыю наступнага турніру.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ГАРАДКІ

# Трэці этап Кубка Еўропы

**У расійскім Чарапаўцы прайшоў пяты міжнародны турнір памяці Барыса Назарава. Сёлета ён меў статус трэцяга этапа Кубка Еўропы.**

Акрамя шматлікіх расійскіх дружын прыехалі некалькі чалавек з Украіны і Беларусі. Нашу рэспубліку прадстаўляла каманда Маладзечанскіх электрасетак: **Генадзь Сушко, Дзмітрый Шайко, Аляксандр Філістовіч.**

Асабістыя спаборніцтвы праходзілі па кубкавай сістэме. У 1/16-й усе маладзечанцы атрымалі перамогі, а вось у 1/8 фіналу Шайко саступіў будучаму пераможцу Уладзіміру Палякову, а Філістовіч – Васілю Духаніну, які заняў другое месца. Сушко ж перамог сына Духаніна – Максіма, але ў чвэрцьфінале прайграў Дзмітрыю Садкову. Той урэшце стаў трэцім, так што атрымалася, што маладзечанцаў перамагалі толькі прызёры.

У камандным барацьбе напачатку было тры групы па тры калектывы. МЭС саступіў 1:2 "Уралэлектрамедзі" з Верхняй Пышмы Свярдлоўскай вобласці, але перамог гаспадароў 2:0. У чвэрцьфінале толькі па булітах пасля 1,5:1,5 нашы землякі аказаліся мацнейшымі за каманду Санкт-Пецярбурга. У паўфінале саступілі будучым пераможцам (яны ў фінале выйгралі ў прадстаўнікоў Верхняй Пышмы) з Краснадарскага краю 1:2, а ў матчы за трэцяе месца зноў перамаглі чарапаўчан 3:1.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

# "Смаргоні" патрэбныя новыя гульцы

**У матчы з "Тарпеда-МАЗам" смаргонцы ў розных таймах выкарысталі два варыянты складу. Шмат праглядалі навічкоў.**

Можна дакладна сказаць, што ў камандзе застануцца паўабаронца **Руслан Жачко** (1980) і нападаючы **Уладзімір Казлоў** (1974). Апошні вядомы па выступленні ў складзе маладзечанскага клуба ў сезоне-1999. Абодва яны летась выступалі ў другой лізе за "Трактар".

З'явіцца ў "Смаргоні" і выхаванец мазайскай футбольнай школы **Дзмітрый Міхадзюк** (1984). Вядуцца перамовы наконт пераходу нападаючага **Аляксандра Мяця** з "Лакаматыва". Могуць быць і іншыя змяненні. Сапраўды, новыя гульцы камандзе вельмі патрэбныя, бо, відаць, да канца сезона не аправяцца ад траўмаў **Дзігілевіч, Шэўчык, Байда, Д. Ваўчок.** Развіталіся смаргонцы з **Сіліным.**

Наогул кадравыя праблемы, па словах галоўнага трэнера ФК «Смаргонь» **Андрэя Майсейчанкі**, сталі асноўнай прычынай не самага чаканага выступлення ў першым крузе. А тут яшчэ збіўся прыцэл у нападаючых. На трэніроўках усе стараюцца, выглядаюць як след, у гульнях жа пакуль не заўсёды атрымліваецца.

На матч 1/32 фіналу 7-га жніўня "Смаргонь" паедзе ў госці да аднаго з лідэраў другой лігі калінкавіцкай "Вертыкалі".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

**■ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА, НАВІНЫ**

**Кожную спрыяльную магчымасць працаўладкавацца імкнуцца выкарыстаць гульцы "Маладзечна-2000", якія сталі свабоднымі агентамі.**

Акрамя тых футбалістаў, што "РГ" называла на мінулым тыдні, на трэніроўках з камандай займаюцца **Тартоўскі, Сысой** і **Карпіленка**. У сераду, за 4 дні да матча супраць "Зоркі-ВА-БДУ" на праглядзе ў "Тарпеда-МАЗе" былі **Бычкоўскі** і **Мігас**, у брэсцкім "Дынама" **Рапецкі**, у другалігавым МТЗ-РІПА **Міхалёў** і **Муравейнікаў**, у той самай "Зорцы" **Акуліч**, у БАТЭ Сарасек. Тартоўскі і Міхалёў не падышлі "Шахцёру".

Ёсць патэнцыяльныя навічкі і ў маладзечанскім клубе. Гэта паўабаронцы мінскага "Лакаматыва" **Ягор Азява** і **Павел Калінюк**, **Вадзім Дармін** са Смалявіч, "забудоўцы" **Аляксей Відрук** і **Андрэй Кандраценя**. Таксама **Дзяніс Мятліцкі**, які першы круг правёў у складзе аўтсайдэра першай лігі з Асіповічаў.

**■ФУТБОЛ**

## Каляндар другога круга

**Вышэйшая ліга**

28 ліпеня. Маладзечна-2000 – Зорка-ВА-БДУ (Мінск)
3 жніўня. Нёман (Гродна) – Маладзечна-2000
10 жніўня. Маладзечна-2000 – Днепр-Трансмаш (Магілёў)
18 жніўня. 1/16 фіналу Кубка Беларусі
24 жніўня Славія (Мазыр) – Маладзечна-2000
2 верасня. Маладзечна-2000 – Тарпеда (Жодзіна)
11 верасня. Гомель – Маладзечна-2000
15 верасня. 1/8 фіналу Кубка Беларусі
22 верасня. Маладзечна-2000 – Шахцёр (Салігорск)
28 верасня. Белшына (Бабруйск) – Маладзечна-2000
6 кастрычніка. Маладзечна – Дынама (Мінск)
20 кастрычніка. БАТЭ (Барысаў) – Маладзечна-2000
26 кастрычніка. Маладзечна-2000 – Дынама (Брэст)
30 кастрычніка. Лакаматыў-96 (Віцебск) – Маладзечна-2000
3 лістапада. Маладзечна-2000 – Тарпеда-МАЗ (Мінск).

**Першая ліга**

27 ліпеня. Смаргонь – Ведрыч-97 (Рэчыца)
3 жніўня. ЗЛіН (Гомель) – Смаргонь
7 жніўня. 1/32 фіналу Кубка Беларусі
11 жніўня. Смаргонь – Бяроза
18 жніўня. 1/16 фіналу Кубка Беларусі
22 жніўня. Асіповічы – Смаргонь
25 жніўня. Смаргонь – Тарпеда-Кадзіна (Магілёў)
31 жніўня. Смаргонь – Хімік (Светлагорск)
4 верасня Смаргонь – Лакаматыў (МІнск)
8 верасня. Дарыда (Мінск) – Смаргонь
14 верасня. Смаргонь – Дынама-Юні (Мінск)
15 верасня. 1/8 фіналу Кубка Беларусі
21 верасня. Нёман (Масты) – Смаргонь
29 верасня. Смаргонь – Граніт (Мікашэвічы)
5 кастрычніка. Ліда – Смаргонь
13 кастрычніка. Смаргонь – Днепр-ДЮСШ-1 (Рагачоў)
19 кастрычніка Смаргонь – Камунальнік (Слонім)
27 кастрычніка. Нафтан (Наваполацк) – Смаргонь

**■ФУТБОЛ, КАНТРОЛЬНЫЯ МАТЧЫ**

**21.07 (Чысць) Забудова – Маладзечна-2000 1:8.**
Галы: Макрыцкі, Дармін – па 3; Муравейнікаў, Азява.

**23.07 Смаргонь – Тарпеда-МАЗ (Мінск) 0:0.**

**24.07 (Чысць) Маладзечна-2000 – МТЗ-РІПА (Мн) 2:1.**
Галы: Макрыцкі, Смірноў.

**■ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА**

**3 ліпеня. Забудова – Баранавічы 1:3.**
Галы: Байлукоў (58); (32-п), (82), (84).

**7 ліпеня. Вертыкаль (Калінкавічы) – Забудова 3:0.**
Галы: (28), (37), (79).

**13 ліпеня Забудова – Пінск-900 1:4.**
Галы: Салаўёў (85); (27), (29), (59), (87).

**Турнірная табліца пасля 1 круга**

| | |
|---|---|
| 1.МТЗ-РІПА (Мінск) | 34 |
| 2.Вертыкаль (Калінкавічы) (+1) | 30 |
| 3.ФК "Пінск-900" | 26 |
| 4.Спартак-ВАР-Днепр (Шклоў) | 20 |
| 5.ФК "Баранавічы" | 20 |
| 6.Верас (Нясвіж) (-1) | 16 |
| 7.СКВІЧ (Мінск) | 16 |
| 8.Дынама-БНТУ (Мінск) | 16 |
| 9.РВАР (Мінск) (-1) | 12 |
| 10.Забудова (Чысць) | 11 |
| 11.Гомель-2 (+1) | 9 |
| 12.Палессе (Мазырскі раён) | 6 |
| 13.Старыя Дарогі | 2 |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**27 ліпеня. Смаргонь – Ведрыч-97 (Рэчыца)**
У першым крузе 0:1 на выездзе

**27 ліпеня. 14-30 (дублі) Маладзечна-2000 – Зорка-ВА-БДУ (Мінск)**
У першым крузе 0:1 на выездзе

**27.07 Забудова – Дынама-БНТУ (Мінск)**
+1=0-4 2-11. У першым крузе 1:0 (Філіпаў) на выездзе

**28 ліпеня. 18-00 Маладзечна-2000 – Зорка-ВА-БДУ (Мінск)**
У першым крузе 1:0 (Рапецкі) у Маладзечне.

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Бульбяная салата па-італьянску

**500 г маладой бульбы, соль, 30 г кедравых арэшкаў, 4 памідоры, 200 г ліставой салаты, 4 лыжкі белага віннага воцату, 2 лыжкі салодкай гарчыцы, перац, 6 лыжак алею, 40 г бекона, 125 г брынзы.**

Бульбу памыць і зварыць. Абабраць яе і нарэзаць скрылькамі. Падсмажыць кедравыя арэшкі да залацістага колеру, не дадаючы тлушчу. Памідоры вымыць і нарэзаць кубікамі. Салату пачысціць, вымыць і абсушыць. Перамяшаць воцат, гарчыцу, соль і перац. Змяшаць з алеем. Перамяшаць з бульбай соус. Нарэзаць невялікімі кавалачкамі бекон і падсмажыць яго на патэльні да хрумсткага стану. Перамяшаць бульбу, салату, брынзу і памідоры. Пасыпаць кедравымі арэшкамі і беконам.

## Бутэрброды з сырам па-венгерску

**350 г хлеба, 100 г масла, 100 г сыру, 1 лыжачка салодкага чырвонага перцу, 1 лыжачка каперсаў.**

Масла і надзерты сыр размяшаць, пасаліць, паперчыць чырвоным салодкім перцам, дадаць дробна нарэзаныя каперсы. Атрыманай сумессю намазаць тонкія лустачкі батона і падсмажыць у духоўцы. На стол падаць гарачымі. З гэтых жа прадуктаў можна прыгатаваць іншыя бутэрброды: лустачкі батона падсмажыць, крыху намазаць маслам, пакласці зверху палоскі сыру таўшчынёй каля 0,5 см, пасыпаць чырвоным перцам і паставіць на кароткі час у духоўку.

**Наташа ГАМОЛКА.**

## ВІНШАВАНКІ

Віншуем з днём нараджэння **Наташу Пяткевіч**! Будзь заўсёды прыгожай, добрай і шчаслівай. З горам не сустракайся, часцей усміхайся. *Мама і сястра Жанна.*

Віншуем **Ганну Сцяпанаўну Гарбачэўскую** з паўвекавым юбілеем! Жадаем здароўя, поспехаў, павагі і ўзаемаразумення. *Калегі з дзіцячага сада №27.*

Віншуем з днём нараджэння **Уладзіміра Іванавіча Бляўскага**. Жадаем здароўя, бадзёрасці на многія гады. *Жонка, дзеці Каця і Света.*

Віншуем з 55-годдзем **Ганну Васільеўну Фралову!** Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця. *Нявестка, сын, унукі.*

Дарагі татачка **Віктар Міхайлавіч Верамей!** Віншуем з днём нараджэння! *Жонка, дзеці.*

Віншуем з днём нараджэння **Зінаіду Ульянаўну Удобкіну!** Жадаем здароўя, сямейнага шчасця, удачы. Дарагая, будзь моцнай. Цалуем. *Сяброўкі.*

Віншуем **Зінаіду Ульянаўну Удобкіну** з днём нараджэння! Не живи уныло, не гадай, что будет, береги, что есть. З любоўю *Жэня, Маша.*

Віншую з днём нараджэння **Юрыя Юхневіча**! Жадаю шчасця, здароўя, дабрабыту, ўзаемнага кахання, аптымізму. *Валянціна.*

Віншуем з юбілеем **Ірыну Свірыду**! Жадаем радасці ў жыцці, поспехаў ў працы,моцнага здароўя, шчасця. *Родныя, сястра.*

Віншую з днём нараджэння **Марыю Антонаўну Мартыновіч**! Жадаю моцнага здароўя, шчасця і ўсяго найлепшага ў жыцці. З павагай *Эдуард.*

## ЗНАЁМСТВЫ

Урач, свабодны, 53/170/77, без шк.звычак, мінчанін, шукае жонку 35-42 год, прыгожую, стройную, худзенькую, з адным дзіцем. Дапаможа матэрыяльна. 220092, г.Мінск-92, да запатрабавання М.Васільчанку.

Адзінокая жанчына пазнаёміцца з прыстойным мужчынам без шкодных звычак, таксама адзінокім. Аб сабе: 50/70/166.Маладзечна-6, п/п КН 0669094.

Я інвалід, хачу пазнаёміцца з дзяўчынай і стварыць сям'ю. Падрабязнасці ў пісьме. Маладзечна-7, МС 0487030.

### Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон (30)

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст

Рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

## Кінатэатр «Радзіма»

**29 ліпеня - 4 жніўня**

"РАДЗІМА". 29 ліпеня–1 жніўня. "**Шанхайскі сувязны**", Ганконг, прыгодніцкі баявік – у 15.00, 17.00, 21.00. 1-4 жніўня "**Дзікая Амерыка**", ЗША, прыгоды – у 15.00, 17.00 і 21.00. 29 ліпеня-4 жніўня – "**Выратуй і зберажы**", ЗША, містычны трылер – у 19.00.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ:**

30 ліпеня – "**Дзікая Амерыка**", ЗША, прыгоды – у 13.00.

31 ліпеня – "**Гары Поттэр**", ЗША, прыгоды – у 13.00.

1 жніўня – "**Там на невядомых дарожках**", Расія – у 13.00.

4 жніўня – "**Прыгоды ваверчаняці Мікі**", Венгрыя – у 13.00.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Правільнага адказу на мінулае пытанне я ад вас не пачуў. Ніхто не назваў карціну "Іван Грозны забівае свайго сына".

Наступнае заданне. Адзін з расійскіх тэлекаментатараў, падчас рэпартажу з футбольнага чэмпіянату свету, цікава заўважыў: "Цяпер зразумела, чаму, калі баліць галава, укол робяць у абсалютна іншае месца". Паспрабуйце адказаць, аб чым ці аб кім гаварылася ў каментарыі.

Званіце па нумару 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін 30 ліпеня, 15-00) і прыходзьце па запрашальны білет на дваіх на фільм у кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ІМЯНІНЫ

**25 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Марыі, Арсенія, Івана, Міхаіла, Сімона, Фёдара.
**Каталіцкія**: Віктара, Крыштафа, Якуба.

**26 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Андроніка, Гаўрылы, Юльяна.
**Каталіцкія**: Гражыны, Міраславы, Аўхіма.

**27 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Анісіма.
**Каталіцкія**: Наталлі, Юліі.

**28 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Кірыка, Савы, Уладзіміра.
**Каталіцкія**: Віктара, Інакенція.

**29 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Валянціны, Юліі, Паўла.
**Каталіцкія**: Марфы, Олафа.

**30 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Веранікі, Маргарыты, Марыны, Лазара, Леаніда.
**Каталіцкія**: Людмілы, Юліты, Пятра.

**31ліпеня**
**Праваслаўныя**: Емяльяна, Івана.
**Каталіцкія**: Ігната, Любаміра.

**1 жніўня**
**Праваслаўныя**: Рамана, Серафіма, Сцяпана.
**Каталіцкія**: Юстыны, Альфонса, Пятра.

■ СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

## Айцец Міхаіл Астаповіч

Час хуткацечны. Прайшоў год з дня смерці бацюшкі, мітрафорнага протаіерэя айца Міхаіла Астаповіча. Лічыцца, што гэтая падзея па канонах праваслаўнай царквы радасная, бо душа адзначае свой першы дзень нараджэння для вечнага жыцця. Але на душы чамусьці маркотна, бо мы страцілі цудоўнага старца.

Першая мая сустрэча з айцом Міхаілам адбылася ў 1994 годзе, калі я прыйшла да яго з просьбай аб дапамозе падрыхтавацца да паступлення ў духоўнае вучылішча. Я ўбачыла старца на мыліцах, з белай, як снег, барадой і добрымі, разумнымі вачыма. У яго вачах заўсёды былі любоў і спачуванне.

Айцец Міхаіл быў для ўсіх нас кладзезем духоўнай мудрасці. У духоўных размовах час праходзіў непрыкметна, з бацюшкам усім было цёпла, утульна і спакойна. Калі адкрылася царква Успення Божай Маці, ён дапамагаў, як толькі мог. Прыход пачаў расці, а айцец Аляксандр, настаяцель царквы, быў адзін. Айцец Міхаіл не адмовіў, хаця стан здароўя быў дрэнным. Ён да канца жыцця памятаў аб сваім пастырскім абавязку. Гады пройдуць, а памяць пра бацюшку застанецца назаўсёды.

**Наталля СЕРАБРАКОВА,**
**духоўная дачка.**

## Протаіерэй Ян Міцько

Вось ужо прайшло 40 дзён, як закончылася зямное жыццё протаіерэя Яна Міцько. Ён пражыў усяго 70 гадоў. Але на гэта была воля Божая...

Айцец Ян быў светлым чалавекам і сапраўдным святаром, спадзвіжнікам і малітвеннікам перад Госпадам. Быў чалавекам глыбокай веры і духоўнасці. Жыў па Запаведзях Божых і далучаў да Госпада і царквы людзей. Ён праводзіў шчырыя, пранікнёныя і ўзнёслыя пропаведзі, любіў роднае слова, сваю зямлю, гісторыю, культуру. Пісаў лірычныя і духоўныя вершы. Яго творы ўвайшлі ў анталогію Беларускай хрысціянскай паэзіі, выконваюцца як песнапенні ў цэрквах. І таму, па волі Госпада, ён пахаваны каля Маладзечанскай Свята-Пакроўскай царквы, у якой доўгі час натхнёна служыў.

Айцец Ян пакінуў аб сабе добрую спадчыну... Сёння слова Божае, па яго прыкладу, даносяць да людзей яго сыны: Анатоль, Георгій, Аляксандр. У яго ёсць нямала духоўных дзяцей, якія будуць захоўваць у сваіх сэрцах светлую памяць аб сваім духоўным айцу і старацца працягваць яго справу.

Са спадзяваннем на ўпакой душы памерлага раба Божага Яна і дараванне яму Госпадам жыцця вечнага.

**ПРЫХАДЖАНЕ.**



## Асцярожна! Лінія электраперадач!

**Маладзечанскія электрычныя сеткі папярэджваюць кіраўнікоў калгасаў, арганізацый, прадпрыемстваў, грамадзян аб неабходнасці захоўвання правіл аховы электрычных сетак да і вышэй 1000 В.**

Вялікая колькасць пашкоджанняў ліній электраперадачы выклікае парушэнне правілаў вытворчасці работ паблізу ці пад правадамі ліній электраперадачы, работа на трасах ВЛ вежавых кранаў, сельскагаспадарчых машын і механізмаў, будаванне ўсемагчымых аб'ектаў без ведама электрасетак і г.д., а таксама іншыя прычыны.

Для захоўвання, стварэння нармальных умоў эксплуатацыі электрычных сетак устанаўліваюцца ахоўныя зоны. Яны ўстанаўліваецца ўздоўж ліній электраперадачы ў выглядзе зямельнага ўчастка і паветранай прасторы, абмежаваных вертыкальнымі плоскасцямі, якія стаяць па абодва бакі ад крайніх правадоў пры неадхіленым іх становішчы на адлегласці.

Для ліній напругай да 1000 В - 2 м, да 20 кВ – 10 м, 35 кВ – 15 м, 110 кВ – 20 м, 220 кВ – 25 м, 330 кВ – 30 м.

Зямельныя ўчасткі, якія ўваходзяць ў ахоўныя зоны электрычных сетак, не адбіраюцца ў землекарыстальнікаў і выкарыстоўваюцца імі для правядзення сельскагаспадарчых і іншых работ з абавязковым захоўваннем патрабаванняў правіл аховы электрычных сетак.

Пры выкананні сельскагаспадарчых работ паблізу паветраных ліній электраперадачы на металічных карпусах машын і механізмаў могуць знаходзіцца небяспечныя электрычныя патэнцыялы, выкліканыя электрастатычнай і электрамагнітнай індукцыяй як у нармальным рэжыме ВЛ, так і пры кароткіх замыканнях у электрычных сетках.

Асабліва небяспечнае датыканне машыны і механізма непасрэдна да праваду ВЛ. Гэта магчыма пры рабоце машыны пад ВЛ, дзе можа адбыцца набліжэнне машыны на недапушчальна блізкую адлегласць да праваду, абрыў праваду і яго падзенне на машыну ці наезд машыны на абарваны провад.

Выкананне работ у ахоўнай зоне ВЛ з прымяненнем высокагабарытных машын і механізмаў павінна праводзіцца па нараду-допуску, выдадзенаму тэхнічным кіраўніцтвам уладальніка машын і механізмаў. Работы павінныя выконвацца не менш чым дзвюма асобамі, адна з якіх назначаецца назіральнікам. Допуск да работ па нараду-допуску ажыццяўляе прадстаўнік электрычных сетак – уладальнік ВЛ.

Дапускаецца аднаасобная работа ў ахоўнай зоне ВЛ на машыне пры ўмове адначасовай работы другой машыны, пры гэтым машыны павінныя знаходзіцца адна ад другой не далей 20 метраў.

Да высокагабарытных машын адносяцца машыны, у якіх габарыты па вышыні не менш 3 метраў – калі ў працэсе работы патрабуецца тэхналагічнае абслугоўванне машыны зверху.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- працаваць у пралётах ВЛ, дзе ёсць абарваныя правады, а таксама набліжацца да апор з абарванымі правадамі і падвяргаемых аднабаковаму прыцягненню, а таксама да саміх абарваных правадоў на адлегласці 20 м,
- набліжацца да апор ВЛ 6-35 кВ, у якіх ёсць прыкметы замыкання на зямлю (разбураны ізалятар, абарвана вязка, каля апоры выпарэнне вільгаці, пажар, таянне снегу, на апоры гарыць дуга і г.д.), на адлегласці менш 20 метраў, а таксама працаваць у пралётах, якія прылягаюць да гэтых апор,
- выкананне земляных работ на глыбіні больш 0,3 метра, а на ўзараных землях больш 0,45 метра, на адлегласці менш 2 метраў ад апор, падкосаў без пісьмовага дазволу ўладальніка лініі,
- прымаць самастойна якія-небудзь меры па зняццю праваду з машыны рукамі, у тым ліку з дапамогай якіх-небудзь прадметаў,
- датыкацца да апор, залазіць на іх ці прывязваць да іх жывёл,
- накідваць ці прыстаўляць да правадоў ВЛ якія-небудзь прадметы,
- складваць кармы, угнаенні, салому, торф, дровы і інш., распальваць агонь у ахоўных зонах паветраных ліній электраперадачы,
- размяшчаць запраўчныя станцыі і іншыя сховішчы гаруча-змазачных матэрыялаў у ахоўнай зоне,
- размяшчаць палявыя станы, устройваць загоны жывёлы, а таксама паліваць сельскагаспадарчыя культуры,
- працаваць на высокагабарытных машынах пад правадамі ВЛ на ўчастках з няроўным рэльефам, а таксама наязджаць на ўзгоркі вышынёй больш 0,5 метра,
- работа стагакіда пад правадамі ВЛ,
- катэгарычна забараняецца запраўка машыны гаручым у ахоўнай зоне.

Машыны і механізмы трэба спыняць заўжды толькі па-за ахоўнай зонай ВЛ.

Пры аварыйным спыненні любой машыны ў ахоўнай зоне ВЛ яна павінна быць у найкарацейшы тэрмін адцягнута на буксіры з зоны.

Пры падзенні праваду ВЛ на машыну вадзіцель павінны тут жа спыніць машыну. Калі пры гэтым можна выслабаніць машыну ад абарванага праваду перамяшчэннем машыны, то неабходна гэта зрабіць як мага хутчэй і паведаміць аб здарэнні ў электрычныя сеткі.

У выпадку адсутнасці такой магчымасці назіральнік павінны паведаміць аб здарэнні ў электрычныя сеткі і да прыбыцця аварыйнай брыгады ні вадзіцель, ні назіральнік не павінныя прапрымаць ніякіх дзеянняў. Набліжацца да такой машыны бліжэй 20 метраў забараняецца.

Калі ў выніку наезду на апоры, падзення праваду ВЛ ці ўзнікнення электрычнага разраду машына загарыцца, то абслугоўваючы персанал павінны неадкладна яе пакінуць, але так, каб не было адначасовага сутыкнення чалавека з машынай і зямлёй. Лепш за ўсё скокнуць на зямлю на абедзве сагнутыя нагі, не трымацца за машыну, а аддаляцца ад яе можна толькі скачкамі на адной ці дзвюх самкнутых разам нагах ці гусіным крокам, не адрываючы ступні ног адна ад адной, зрабіўшы такім чынам шлях ад машыны на адлегласць 20 метраў. Аб здарэнні павінна быць паведамлена ў электрычныя сеткі па тэлефонах 41385, 41336, 41352, г Маладзечна, вул.Драздовіча, 27. Да прыбыцця спецыяльнай брыгады электрасетак забараняецца прадпрымаць якія-небудзь дзеянні па пажаратушэнню машыны і набліжацца да яе бліжэй 20 метраў.

**Вытворчасць работ у ахоўнай зоне ВЛ 10-330 кВ арганізацыямі, прадпрыемствамі і прыватнымі асобамі дазваляецца толькі пры пісьмовым дазволе і допуску Маладзечанскімі сеткамі.**

Парушэнне правіл аховы ліній электраперадач, якое выклікала ці магло выклікаць перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, пашкоджанне электрычных сетак ці нанясенне іншага ўрону народнай гаспадарцы пацягне за сабой прыцягненне вінаватых у гэтым да строгай адміністрацыйнай адказнасці.

Адміністрацыйнае спагнанне не вызваляе вінаватага ад пакрыцця матэрыяльнага ўрону ва ўстаноўленым парадку.

***МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ ЭЛЕКТРЫЧНЫЯ СЕТКІ.***

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# Што думаеце пра “ўборачнае” надзвычайнае становішча?

**У Беларусі аб’яўлена надзвычайнае становішча (НС). Аляксандр Лукашэнка паставіў задачу ўбраць ураджай да 1 жніўня. Цікава, што думаюць аб гэтым маладзечанцы?**

Падзяліліся яны на два лагеры. Першы нічога пра гэта не ведае і ніяк да гэтага не адносіцца, бо лічыць сябе гарадскім. Другі лагер – тыя ж гарадскія, але трохі вясковыя, разумеюць сялян.



**Вольга Шнэк, настаўніца:**
— НС патрэбна. Калі справімся з задачай, зможам пакрыць той ураджай, які “згарэў”. Думаю, хлеб будзе.



**Ларыса Нелюб: прадавец:**
— Я — гарадская жыхарка. Не ведаю, ці патрэбна бітва за ўраджай. Вогнішчаў і нам не патрэбна. А людзі дапамогуць.



**Яўген Тарубараў, пенсіянер:**
— Каб ураждай убраць у тэрмін, дзяржава павінна без перапынкаў фінансаваць уборачную кампанію, канешне, зрабіць усе ўмовы для працы камбайнераў.



**Святлана Рамановіч, фармацэўт:**
— Трэба было рыхтавацца да ўборкі на працягу года. Калі ж калгаснікі будуць працаваць так, як усё ў нас робіцца, дык і НС не дапаможа.



**Мікалай Міхалёў, прадавец садавіны:**
— Раз ураджай ужо паспеў, трэба ўбіраць. НС дапаможа. Я дык па-любому знайду хлеб. У крайнім выпадку ў Расію зматаюся.



**Вячаслаў Карнееў, заслужаны донар СССР і РБ:**
— НС неабходна. Тэхніка наша старая, з запчастак злепленая. А ўраджай ратаваць трэба. Беларусы працалюбівыя, усё вытрымаюць.

**Фотаапытанне падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## Гараскоп 26 ліпеня – 1 жніўня



**Авен**
(21.03–20.04)

Авенам трэба есці лёгкую ежу і не грэбаваць цыбуляй і часнаком. У той жа час трэба абмежаваць сябе ў спецыях. Вельмі карысна з’ядаць нашча чайную лыжку мёду. Падыходзіць любы від спорту, але трэба памятаць, што Авены займаюць першае месца ў групе рызыкі па верагоднасці атрымання траўмаў.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Каб трымаць сябе ў форме, неабходна стрымаць запал за абедзенным сталом, як мага радзей наведваць застоллі і менш піць віна. Не грэбуйце ёгуртам. Аэробіка, танцы і ранішняя прабежка – вось ідэальныя віды фізічнай нагрузкі.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

У вас асаблівых праблем са здароўем як правіла няма. Галоўны недахоп – няўменне правільна расходаваць энергію.

Астролаг рэкамендуе вам камандныя віды спорту, а таксама тэніс і бег. Аснову харчавання павінна складаць лёгкая ежа.



**Рак**
(22.06–23.07)

Вы часта перажываеце стрэсы. І астролаг не прапануе якойсці дыеты.

Уключыце ў свой рацыён дары мора, агародніну і садавіну. Для расслаблення трэба аддаць перавагу танцам, плаванню і прагулкам на свежым паветры.



**Леў**
(24.07–23.08)

Вы часта пакутуеце ад расстройстваў сардэчна-сасудзістай сістэмы, трэба заўсёды трымаць сябе ў руках, а пры лішку эмоцый не займацца цяжкімі відамі спорту. Калі ёсць лішняя вага, то тлустая ежа – забароненая, ешце менш і салодкага.



**Дзева**
(24.08–23.09)

У вас ёсць схільнасці да кішэчных захворванняў. Астролаг рэкамендуе ежу з вялікім утрыманнем валакністых рэчываў, а нярэдка і вегетарыянскую ежу, асабліва бульбу і моркву.

Ідэальна падыходзіць язда на веласіпедзе, водныя працэдуры.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Вам проціпаказаны культурызм і рэкамендавана рэгулярная гімнастыка раніцай. Тым, хто пакутуе ад павышанага ці паніжанага крывянога ціску і галаўных боляў, астролаг раіць звесці да мінімуму ўжыванне мяса і прысмакаў. Больш ешце яблыкаў.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Астролаг дае аналагічную рэкамендацыю.

Вам нярэдка ўласціва неадэкватнае ўспрыманне, таму трэба аддаваць перавагу такім відам спорту, якія звязаны з вялікімі нагрузкамі. Не варта пазбягаць водных працэдур.



**Стралец**
(23.11–21.12)

А вось вам паднясце цяжару проціпаказана.

Карысныя лёгкія фізічныя практыкаванні і прабежкі, а штодзённае ўжыванне курагі дазволіць засцерагчыся ад шматлікіх хвароб. У летні час года ў харчаванні пажадана карыца, якая з’яўляецца добрым сродкам для зняцця стрэсу.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Для вас нярэдка характэрны недахоп у арганізме кальцыю, у сувязі з чым многія пакутуюць ад хвароб суставаў, касцей, скуры і зубоў. Астролаг прапануе штодзённа есці кедравыя арэхі і больш быць на свежым паветры.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Вам парада – як мага больш есці цытрусавых. Для вас ідэальныя летнія віды спорту. Народжаныя пад знакам Вадалея ў цёплых краях адчуваюць сябе значна лепш, чым у халодных.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Вы больш за іншых адчуваеце ўздзеянне надвор’я. Часта скардзіцеся на галаўны боль і праблемы са страўнікам, таму варта рабіць асновай харчавання дары мора і салаты, куды дабаўляць мяту і лімон. Вельмі карысныя для вас шпінат, яблыкі, кабачкі. Натуральна, больш плавайце.

■ МЕРКАВАННЕ

# Кладзіце яйкі ў некалькі кошыкаў

**На мінулым тыдні еўра стаў даражэйшы за долар, і гэта выклікала хваляванне амаль ва ўсіх: і тых, хто мае ў загашніку сто-дзвесце долараў, і тых, у каго тысячы на банкаўскіх рахунках.**

Апошнім часам долар быў адзіным сур’ёзным эквівалентам вымярэння: у доларах называюць кошт тавару на рынку, ім вымяраюць зарплату супрацоўнікам недзяржаўных прадпрыемстваў. Амерыканскі долар не самая моцная валюта ў свеце, але самая распаўсюджаная. У свеце існуюць яшчэ тры моцныя валюты: японская ена, швейцарскі франк і англійскі фунт стэрлінгаў. Апошні ў паўтара раза даражэйшы за долар. Вялікабрытанія за гады панавання ў свеце назбірала вялікі скарб, які зараз забяспечвае грашовую вартасць англійскай валюты. Але яна мае пэўную ўладу толькі ў сябе на радзіме, бо ў асноўным большасць сусветных рыначных аперацый праходзіць у доларах. Еўра таксама не абмяжоўваецца



хаджэннем па краінах Еўрапейскага Саюза, а распаўсюджваецца па свеце з вялікай хуткасцю. Некаторыя краіны прывязваюць свае нацыянальныя валюты да еўра. Долар і еўра вартыя адзін аднаго, і зараз, калі еўра перамагае амерыканскую валюту, людзі пачынаюць губляцца і не ведаюць, у якой валюце лепш захоўваць зберажэнні. Выйсце з гэтай сітуацыі ёсць.

Мяркую, што еўра давяраць яшчэ рана. Падзенне курсу долара выклікана фінансавымі скандаламі ў ЗША і банкруцтвам вялікіх карпарацый. Але ж і долар ужо не той, што быў дзвесце гадоў таму, яго патэнцыял часткова знізіўся. У адрозненне ад еўрадзіцяняці, у якога ўсё наперадзе. Таму адзіным правільным рашэннем будзе не аддаваць перавагу той ці іншай валюце, а знайсці кампраміс паміж імі. Лепш пераводзіць грошы і ў долары, і ў еўра. Прычым пакуль што пажадана ў еўра захоўваць меншую частку і паступова яе павялічваць. У любым выпадку хваляванні курсаў яшчэ будуць, і першае месца будзе пераходзіць ад долара да еўра і наадварот. Але дзве валюты ўзаемакампенсуюць адна адну, таму агульная вартасць зберажэнняў істотна не зменіцца. Як кажуць англічане: кладзіце яйкі ў некалькі кошыкаў. Магчыма, гэтая прымаўка дапамагла ім стаць адной з багацейшых нацый у свеце.

**Аляксей ЧУБАТ, Вілейка.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9170 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№30 (379) 26.07.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 2134. Падпісана ў друк у 13.00 25.07.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: regionnews@promedia.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ’ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап’янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444